Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 55 гр.

# ЖАНОЦКАЯ СПРАВА

Орган Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын імя Алёізіі Пашкевічанкі (Цёткі).

Выходзіць раз у месяц.

*Год выданьня I.* *Вільня, Красавік 1931 г.* *№ 2*



## Да працы.

Калі мы зойдзем на вёсцы ў беларускую бібліотэку-чытальню, дык там мы спаткаем мужчын старэйшых, хлапцоў, але жанчына туды не заглядае. Так не павінна быць. Жанчына мусіць хадзіць у сваю беларускую бібліотэку-чытальню, мусіць чытаць беларускія газэты і часапісі, з якіх яна даведаецца, што робіцца на сьвеце, як жывуць людзі. З гэтай-жа бібліотэкі яна павінна браць беларускія кніжкі і чытаць іх у вольную хвіліну ў хаце.

Невялічкая веда, здабытая ў пачаткавай школе, ды яшчэ й ў чужой не беларускай мове, адрывачная, няглыбокая і, застаючыся без паглыбленьня ў далейшыя часы, занікае, а часта і зусім гіне. Кожная з нас жанчын павінна старацца гэтую маленькую крупінку веды, здабытую ў школе, пашырыць, паглыбіць, разьвіць і ўпарадкаваць яе. Вось у гэтым выпадку найвялікшымі нашымі памоцнікамі будуць нашыя беларускія кніжкі, часапісі і газэты.

Працуючы над сваёй самаадукацыяй, усьведамляючы сябе нацыянальна й грамадзка, жанчына зразумее, што жыцьцё накладае на яе тыя-ж самыя грамадзкія абавязкі, як і на мужчыну.

Праўда, яна вельмі часта пачуе ў хаце ад свайго мужыка, а калі яна дзяўчына, дык ад брата ці каго іншага з хатніх мужчын: „гэта ня бабская справа“ або „пільнуй хаты ды печы“ і г. д. Гэткія словы нашых мужчынаў не павінны палохаць жанчыну. Сьведчаць яны толькі аб цемры і някультурнасьці, якія пануюць у нашай вёсцы, дзякуючы цяжкім умовінам жыцьця. Мужчыны нашы і да гэтага часу глядзяць на жанчын як на фізычную сілу. Жанчына павінна ўмець добра зварыць есьці, абмыць, абшыць усіх у хаце, спрытна ўвівацца каля гаспадаркі ці наагул быць добраю гаспадыняю. Іншае-ж, як агульныя справы тэй вёскі, дзе яна жыве, ці таго народу, да якога яна належыць, ці, шырэй гледзячы, — ўсіх людзей наагул — гэта не яе справа.

З такім поглядам нашага мужчыны трэба станоўча змагацца. Я не хачу гэтым сказаць, што жанчына не павінна займацца хатнімі і гаспадарскімі справамі—не, гэта яе заданьне, як маткі, як гаспадыні ў сям'і, дабрабыт якое залежыць ад умелага вядзеньня гаспадаркі. Дабрабыт-жа паасобных сем'яў зьяўляецца дабрабытам усяго народу. І роля тут жанчыны, як гаспадыні, вельмі важная і адказная. Але апрача гэтага яна павінна цікавіцца і займацца агульна грамадзкаю працаю.

Грамадзкая-ж яе праца не павінна выяўляцца толькі ў тым, як гэта часта ў нас

даецца назіраць, што жанчына наша і то не заўсёды пойдзе падзівіцца на беларускі спэктакль, яшчэ радзей сама бярэ удзел у гульні. Не, мы, беларускія жанчыны, так як і нашы сёстры ўсяго сьвету, мусім ува ўсіх галінах грамадзкага жыцьця стаць поплеч з мужчынаю, змагаючыся разам з ім за свае агульныя правы.
Браць удзел у грамадзкім жыцьці, гэта значыць, займацца агульнымі справамі, дбаць пра агульнае дабро, змагацца за лепшую долю маладога пакаленьня, за лепшую будучыню нашага народу.

Вось, напрыклад, у вёсцы на ўсялякую сходку, скліканую солтысам, ці войтам, жанчына мусіць ісьці абавязкава, выслухаць уважліва пра тую справу, аб якой там будзе гутарка, разважыць яе і падаць тую ці іншую сваю думку — раду. Мо яе першыя словы ня пойдуць зусім гладка, мо яна тут спаткае насьмешкі збоку мужчын, але на гэта ня трэба зварочваць увагі, а сьмела выказваць тое, што яна лічыць добрым і адпаведным.

Часта на такіх сходках абгаварвоецца справа адкрыцьця беларускае школы ў тэй ці іншай вёсцы, абоператварэньня існуючай польскай школы ў беларускую. Тут жанчына павінна станоўча з няўпыннай энэргіяй дабівацца для сваіх дзяцей, маленькіх братоў і сёстраў школы ў сваёй роднай матчынай беларускай мове. Гэта належыць нам па праву, як і кожнаму народу і ад здзейсьненьня гэтых нашых дамаганьняў мы не адступім ніколі.

Надыдуць выбары ў валасныя і гарадзкія самаўрады, тутака таксама жанчыны павінны актыўна ўзяцца да працы—сабраццa, пагутарыць, парадзіцца адна з другою, адкінуць усе асабістыя разрахункі і падаць свой голас за чалавека, які-б чэсна, адкрыта ды ўмела бараніў-бы ў валаснай ці гарадзкой радзе нашы агульныя справы.

Калі-б знайшлася ў тэй ці іншай вёсцы жанчына сьвядомая, нацыянальна і грамадзка разьвітая ды здольная сьмела выступаць у абарону справаў агулу, дык яе трэба абавязкава выставіць у кандыдаткі валаснога ці гарадзкога самаўраду, правясьці, ды няхай яна там падае свой жаноцкі голас, бароначы нашыя агульныя беларускія і чыста жаноцкія справы.

**Надзея Шнаркевіч.**

---

*Кожная беларуска мусіць навучыцца сама і навучаць другіх чытаць і пісаць па-беларуску.*

---

# Наша Беларускае Нацыянальнае Сьвята:

## трынаццатыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

25 сакавіка г.г. Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Установ, з прычыны 13-ых угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Рэспублікі, зладзіў урачыстую Акадэмію ў залі Віл. Бел. Гімназіі. Спачатку аркестр заіграў наш нацыянальны гымн „Ад веку мы спалі“, а пасьля адчыніў Акадэмію ад імя Прэзыдыюму Цэнтрасаюзу гр. Астроўскі і перадаў слова творцу акту 25 сакавіка 1918 г. грам. Антону Луцкевічу.

Прачытаўшы тэкст Устаўнае Граматы Рады Рэспублікі з 25 сакавіка 1918 г., прамоўца адзначыў, што галоўным пунктам гэтага гістарычнага акту былі незалежнасьць Беларусі і непадзельнасьць яе. Далей, у сваёй прамове грам. Луцкевіч абгаварыў шырака тое вялікае значэньне для беларускага народу, якое мае акт 25.III. 1918 г. і ягоныя вынікі. Веручы глыбока ў зьдзейсьненьне незалежніцкага ідэалу, прамоўца заклікаў усіх беларусаў у сэрцах сваіх будаваць Беларусь, пакуль ня прыдзе час зьдзейсьненьня нашае беларускае нацыянальнае ідэі.

Пасьля прамовы грам. Луцкевіча выступілі нашы маладыя паэты, Хв. Ільяшэвіч і Аўген Бартуль, дэклямуючы свае вершы. Закончана было сьвяткаваньне спэктаклем. Пастаўлена была аднаактоўка Янкі Купалы „На папасе“.

Ня гледзячы на тое, што акт 25 сакавіка 1918 г., дзякуючы ад'емным умовінам, ня даў зьдзейсьніць Беларускаму Народу ягоны ідэал, аднак, гэты акт мае вялікае значэньне ў гісторыі нашае Бацькаўшчыны, як выяўленьне волі Беларускага Народу жыць незалежна, вольна, сваім нацыянальным, культурным, эканамічным і дзяржаўным жыцьцём, і, як слушна зазначыў грам. Луцкевіч, што адзін толькі незалежніцкі ідэал можа забясьпечыць Беларусі сапраўдную волю, і што незалежнасьць мусіць быць зьдзейсьнена, як гістарычная канечнасьць.

# Як адчыніць беларускую бібліотэку-чытальню.

Сястрыцы, мы ўжо гаварылі аб тым, што кожная беларуская жанчына мусіць хадзіць у сваю беларускую бібліотэку-чытальню, дык вось наш абавязак дбаць аб тым, каб у кожнай вёсцы была наша беларуская бібліотэка-чытальня. Як гэта зрабіць, падаем ніжэй.

Каб залажыць бібліотэку-чытальню трэба выбраць з пасярод сваіх сяброўак кандыдатку на загадчыцу бібл.-чытальні, якая павінна мець скончаных 21 год, і якая не пазбаўлена правоў судом.

Гэтая кандыдатка на бібл.-чыт. выпаўняе „асьвядчэньне", якое можна атрымаць у Аб'яднаньні Бел. Жанчын ім. А. Пашкевічанкі „Цёткі", Вільня, Віленская 8—і ў якім трэба, апрача імя і прозьвішча загадчыцы, паказаць дакладны адрас бібліотэкі-чытальні (дом, у якім яна будзе месьціцца) і подпіс свой на ім (асьвядчэньні) заверыць у міравога судзьдзі ці натарыюса.

Аформленае такім чынам „асьвядчэньне" пераслаць трэба ў Аб'яднаньне Белар. Ж., Урад якога залегалізуе гэткім спосабам паўстаўшую бібл.-чыт. у адносным павятовым старостве.

Дзеля таго, што дзейнасьць Аб'яднаньня Б. Ж. абыймае толькі Віленскае Ваяводзтва, то тыя, што хочуць залажыць бібл.-чыт. у іншых ваяводзтвах (Навагрудзкае, Палескае і Беластоцкае), хай зьвярнуцца да Цэнтральнага Саюзу Белар. Культ.-Асьветн. і Гасп. Арганізацыяў і Інстытуцыяў — Вільня, Вострабрамская 9-22.

Парадак адчыненьня бібл.-чытальн. такі самы.

Кніжкі можна атрымаць у Аб'яднаньні Б. Ж. на вельмі выгадных варунках: адразу трэба прыслаць 5 зл., па атрыманьні якіх высылаецца пэўны камплект кніжак (прыблізна вартасьці 10 зл.) для бібл.-чытальні. Рэшту бібл.-чыт. сплачвае паступова з абаротных грошаў ад чытачоў, з якіх частка пойдзе на далейшае дапаўненьне бібл.-чыт. новымі кніжкамі.

---

# Пясьняркі Усходняе Беларусі.

(*З. Бандарына. В. Вішнеўская. Я. Пфляўмбаўм*).

На беларускай поэтыцкай ніве ёсьць цэлы рад жаноцкіх іменьняў, якія ў поўнай меры заслужылі на ўвагу грамадзянства. Яшчэ ў самым канцы XIX сталецьця піша свае байкі (часткова перапрацоўкі чужых, часткова—орыгінальныя) Марыя Косіч. У пэрыяд вялізарнага ўсенароднага ўздыму ў 1904—5 гадох выступае з сваімі гарачымі рэволюцыйнымі вершамі „Цётка", творчасьць якое ў наступным пэрыодзе ўзбагачываецца й паглыбляецца, абыймаючы праявы адраджэнскага руху й адбіваючы асабістае жыцьцё поэткі. У тыя-ж перад-ваенныя гады расьцьвітае пясьнярскі талент Канстанцыі Буйлы з яе чыста жаноцкімі настроямі й перажываньнямі. А пасьля вайны, калі выходзе ў жыцьцё новае пакаленьне нацыянальна сьвядомае беларускае інтэлігэнцыі, сярод апошняе зварачае на сябе агульную ўвагу найвыдатнейшы беларускі жаноцкі талент Натальлі Арсеньневай, якая заняла пачэснае месца ў нашай літэратуры—побач з нашымі найлепшымі песьнярамі.

Творы Цёткі, Буйлянкі і Арсеньневай друкаваліся тут, у Вільні, і дзеля таго даступныя кожнаму, хто хацеў-бы з імі пазнаёміцца. Але й на Усходзе—за гранічнай мяжой, якая падзяліла Беларусь на дзьве часьці,—родзяцца сярод беларускіх жанчын поэтыцкія таленты, творы якіх для нас, нажаль, бадай зусім недаступны. Толькі прыпадкова дайшла да нас невялічкая кніжачка пад назовам „Вершы", надрукаваная ў 1926 г. (выд. Кніжніца „Маладняка"), з якое даведываемся аб імёнах трох беларускіх поэтак—прадстаўніц пралетарскага кірунку, а таксама можам пазнаёміцца з узорамі іх творчасьці. Гэтыя няведамыя нам новыя пясьняркі — З. Бандарына, В. Вішнеўская і Я. Пфляўмбаўм. З гэтага зборнічку мы і падаем жменю іх вершаў — тых, якія пры нашых цэнзурных умовах могуць быць надрукованы без пагрозы канфіскаты.

З. Бандарына.

### Шэптам дзіўным...

Шэптам дзіўным прасторы спавіты,
Завілося калосьсе ў вянок.
І хвалюецца ў постаці жыта...
Шэры змрок загінуў даўно.

Заістужана чырваньню неба,
Чырвань хмар палягла на ваду...
Празьвінела ды водгульле сьледам,—
Гэта жнейкі на працу ідуць.

Сонца паліць, пячэ, не шкадуе,
Песьня ймкнецца: „зажалі-дажнём".
Грамаду прывітай маладую,
Што ваюе на полі з сярпом.

Прытаміліся ногі і рукі,
Ды за тое снапы, снапы...
Павязуць іх пад гоман і грукат,
На гумно, дзе сумуюць цапы.

Хоць і цяжка бывае часінай.
Я люблю і прастор і палі.
Змрок кудлаты ў абшарах загінуў,
Плыве шум каласістых далін.

Люба подых агністага лета
Ды з сярпом на плячы спатыкаць
І на постаці сьпелага жыта
Ад расы да расы працаваць.

---

## І толькі ты...

Чаму мне хочацца сьмяяцца—весяліцца,
Чаму плюскоча радасьці задор,
Калі бліскучая зарніца
Гудком шугае ў прастор?
Эх, кліч заводу,
Грохат вуліц,
Гарадзкога шуму перазвон;
Моладзь творыць жыцьцё ў разгульлі
На агні мінулых дзён.
А ты прадоньне беднаты —
Вёска, вёска, — балаты,
Шумліва-цёмныя бары...
Вёска, толькі ты бязьмежнай плыньню,
І толькі ты паркальнай сіньню
Схавала чырвані—дары,
Згінаючы мазольнай сілай
Старыя — горкія гады.
Дні прышлі... Мінулае застыла,
Куём жыцьцё працоўнай грамады,
Куём жыцьцё мазольнай сілай, —
Гінуць роспачы гады.

---

## Не кажы...

Не кажы, што адну ты кахаеш,
Не кажы, што я люба твая.
Зорнай ночкай з табою другая
Я-ж сумую адна...
        Адна...

Чула песьні, сьпявае што вецер,
Пра цябе там таксама была;
Лепш бы ветру мне не паверыць:
Годзе сэрцу палаць...
        Палаць...

Дый навошта тугою ўспамінаў,
Як пярсьцёнкам душу спавіваць,
Дый навошта, навошта дзяўчыне
Так балюча кахаць...
        Кахаць...

Беларускія нівы, азёры
Не на зьдзек гадавалі мяне.
Эх, разьбіць-бы каханьня—ўзоры...
Не падамся нудзе...
        Нудзе...

Вольнай птушкай над хмары ў палесьсе,
За змаганьне жыцьця—на зямлю.
Смутак сэрца майго не завесіць —
Сьвет шырокі люблю...
        Люблю...

(Творы В. Вішнеўскай і Я. Пфяўмбам падамо ў наступных нумарох).

---

## Шляхаводная Зорка.

Памяці Цёткі, Вялікае
Барацьбіткі за Волю.

Бура выла, стагнала, раўла,
І туманы сьляпілі нам вочы.
Мы ішлі. Але сьцежка была
Уся спавіта цямраваю ночы:
Блакіт гінуў у яе кіпцюрах.
Хоць была нас нязначная сіла,
Мы ішлі... бо нам правільны шлях
Шляхаводная Зорка сьвяціла.
Бура выла, стагнала, раўла,
Хмары цёмныя сьвет аблягалі...
З імі зорка змаганьне вяла
І сьвяціла, хоць Ёй засланялі.
Так было тэй парою цяжкой,
Мы ішлі а нам Зорка сьвяціла...
Ажно... раптам... хвілінай ліхой —
Яе зьнішчыла чорная сіла:
Гэтак зьнікла няжданна яна,
Што для іншых жыла і цярпела,
Што жыцьцё ўсё сваё аддала
У ахвяру Вялікага Дзела.
Зорка зьнікла. А мы йдзем далей —
А ідземы да шчасьця—сьлядамі
Паміж іскрамі Зорачкі тэй,
Што калісьці сьвяціла між намі.

В. Ш.

---

*Кожная сьвядомая беларуска павінна рупіцца аб тым, каб захавалася наша родная беларуская мова, песьня й вопратка.*

# З жаноцкага сьвету.

## Украінскія жанчыны з далёкае чужыны бароняць справы свае Бацькаўшчыны.

Як піша „Ж. Д.“, Ліга (саюз) украінскіх жанчын у Кліўленд (Амэрыка) выслала пратэст сэкрэтару штату Стімсон у справе галіцыйскіх падзеяў. Пратэст падпісала старшыня Таварыства гр-ка Дзілай.

---

## Першы жаноцкі суд прысяжных у штаце Ільліной у Амэрыцы.

3 сьнежня г. г. першы раз у гісторыі штату Ільліной адбыўся суд прысяжных, які складаўся выключна з жанчын. У склад суда выбраны найбольш заслужаныя і паважныя жанчыны з гораду Чыкага.

У гэтым судзе разьбіралася справа маладога грамадзяніна Вассона, які прыпадкова забіў сваю матку. Вассон кіраваў аўтам, маючы намер даць яму задні ход. Ён не заўважыў, што ручка была настаўлена „наперад“. Аўта раптоўна рушыла і задавіла на сьмерць матку Вассона, прыціснуўшы яе да сьцяны. Малады Вассон быў вельмі добрым сынам, што было сьцьверджана ўсімі сьведкамі. Суд звольніў Вассона ад віны і кары. Прысуд прачытала грамадзянка Джэйк Адамс, якая нядаўна сьвяткавала 70-ыя ўгодкі сваіх нарадзін.

---

## Памятнік Эвэліне Панкхэрст.

У 1928 годзе памерла правадырка і найвялікшая барацьбітка за палітычныя правы ангельскіх жанчын грамадзянка Эвэліна Панкхэрст. Яе імя ведама усяму культурнаму сьвету. Будучы правадыркаю паступовых ангельскіх жанчын, так званых „суфражыстак“, яна ўсё сваё жыцьцё ўпорліва і бязупынна змагалася за правы жанчыны.

Ангельскія жанчыны, ня гледзячы на высокую культуру ангельскага народу, ня былі зраўнаны ў правох з мужчынамі (так сама, як і ў іншых дзяржавах). З гэткаю няроўнасьцю у правох ангельскія перадавыя жанчыны не маглі пагадзіцца, і яны пачалі рашуча пратэставаць перад сваімі ўладамі. Спачатку гэты пратэст меў характар зусім лёяльны. Ангельскія жанчыны выдавалі адозвы да тагачаснае ўлады і прамаўлялі свімі артыкуламі ў прэсе.

На жаль, такі лёяльны пратэст ангелькаў не рабіў ніякага ўражаньня на ўлады, і справа правоў жанчыны не кранулася з мейсца. Тады ангельскія жанчыны пачалі пратэставаць больш рашуча і актыўна. Яны арганізоўвалі мітынгі і дэманстрацыі, якія вельмі часта пад уплывам ідэі перэтвараліся ў публічныя скандалы. Так, напрыклад, жанчыны пабілі парасонамі ангельскіх міністраў, абкідалі іх гнілымі яблыкамі і нават высадзілі ў паветра дом Лойд-Джоржа, тагачаснага ангельскага канцлера.

Гэткія выступленьні ангельскіх „суфражыстак спачатку тлумачыліся іх някультурнасьцю ды выклікалі сьмех у ангельскім грамадзянстве. Праз нейкі час, аднак, ангельскія ўлады пачалі перасьледаваць „суфражыстак“ і перад самай вайною ўжо дайшло да таго, што правадырка „суфражыстак“, сама Эвэліна Панкхэрст была засуджана на тры гады вязьніцы.

І вось цяпер, калі ўжо жанчыны дасягнулі свае мэты, у Англіі ў мінулым годзе яны паставілі сваёй вялікай правадырцы Э. Панкхэрст памятнік. Гэты памятнік стаіць каля самага парляманту, на тым мейсцы, дзе калісь вялася барацьба паміж паступовымі жанчынамі і ўладаю.

На адкрыцьці памятніка быў прысутны і прамаўляў калішні праціўнік Э. Панкхэрст, б. міністар Англіі Болдвін, пры якім ангельскія жанчыны атрымалі палітычныя правы.

У сваёй прамове Болдвін падчыркнуў вялікія вынікі барацьбы слаўнае Э. Панкхэрст, кажучы як у часы сусьветнае вайны „суфражысткі“ — гэтыя гарачыя патрыёткі, пайшлі на працу ў поле і на фабрыкі, дзе замянілі мужчын, забраных на вайну.

На тым-жа ўрачыстым адкрыцьці памятніка іграў аркестр паліцыі, якая ў свой час так энэргічна разганяла з гэтага-ж мейсца дэманстрацыі, робленыя на чале з Э. Панкхэрст жанчынамі за здабываньне сваіх правоў.

---

*Кожная сьвядомая беларуска павінна выпісаць беларускую часапіс „Жаноцкая Справа“, чытаць яе сваім сяброўкам і пісаць туды весткі з свайго боку.*

# КРУК.

Напісаў Др.

Нядалёка ад вёскі былі могілкі. На званіцы могілак часта сядзеў крук. Кожны вечар сядзеў ён там задуманы. Доўга круціў ён галавою, доўга ня мог уцяміць, чаму там, унізе ў вёсцы гэтакае кароткае жыцьцё чэлавечае?

На могілкі зноў прынясьлі новую труну, зноў ужо званы на званіцы бубняць, плачуць над вёскай—на могілках паставілі новы крыж!

Паляцеў крук з званіцы — ніжэй, пэрэляцеў могілкі—парахаваў крыжы. Шмат каго з памершых, якія лежалі цяпер на могілках каля капліцы з белай вежай, знаў крук.

Успамінаў і кумекаў, што сталася, чаму яны закапаны?

Выляцеў зноў на званіцу, паглядзеў наўкола, зірнуў на вёску. Бачыць, пасярэдзіне вёскі стаіць старая студня. І кал і бруд з усяе вёскі: з нападворкаў, хлявоў, хат цячэ ў гэтую студню.

Паглядзеў крук на могілкі. 30 крыжоў з гэтай студні вырасла, калі стаяў сьнег. 30 крыжоў дарэмных, беспатрэбных, перадчасных,

Зноў глядзіць крук на вёску. Бачыць карчму. У карчме гоман, сьпеў, курава дыму і пылу.

А калі паглядзеў крук на могілкі, то убачыў 200 сумных равоў — у кожным раву лежала ахвяра карчмы. 200 крыжоў дарэмных, беспатрэбных, перадчасных!

І зноў глядзіць на вёску. Бачыць душную, неправетраную хату, пакрытую звонку і ўнутры плесьняю.

А ў хаце каля калыскі стаяць у чорных вопратках — плашчох — Бяда, Дурнота, Забабоны.

І калі паглядзеў крук па вёсцы, азірнуў вачыма ад хат да могілак, то зрок ягоны затрымаўся на могілках, дзе было шмат радоў магілаў. І ўцяміў крук, чаму гэтак шмат магілаў узрасло тутака праз кароткі час і, пры гэтым, магілаў дарэмных, беспатрэбных, перадчасных.

Пераклала з чэскага
Сястрыца.

Чэхаславацыя.
Альбэрцінум.

---

***Маці, дапільнуй, каб твае дзеці умелі чытаць і пісаць па-беларуску!***

---

# Парады для матак.

## Як карміць дзіця грудзмі.

Сама прырода стварыла найлепшую ежу для дзяцей—гэта малако маткі. І кожная матка, калі ёй толькі дазваляе здароўе, павінна карміць дзіця сама грудзмі. Тады дзіця і здаравейшае і лепш будзе расьці. Але кормячы дзіця грудзмі, трэба пільнавацца пэўнага парадку, бо інакш і гэтай найлепшай ежай можна дзіцяці зашкодзіць, прыкладам, абкарміўшы яго

Вось я тут хачу падзяліцца з чытачкамі пэўнымі правіламі, якіх трэба пільнавацца, кормячы дзіця грудзмі.

Перадусім, дарагія маткі, кіньце звычай даваць дзецям суслу з перэжаванага з цукрам хлеба або булкі. Дзеці маюць вельмі далікатны жываток, і кіслы хлеб, або нават і булка дужа дзецям шкодзяць. Я, ўрэшце, думаю, што калі-б і дарослы чалавек цэлы дзень пассаў суслу, то, напэўна, назаўтра дастаўбы нястраўнасьці. Суслу звычайна робяць жуючы хлеб у роце—значыць мяшаючы яго з сьлінай, а ў сьліне кожнага чэлавека, як вядома, знаходзяцца заразкі розных хваробаў. Такая сусла, калі паляжыць пару гадзін, то закісае, ды наагул робіцца брудняй. Дзіця, ссучы такую брудную суслу (а чыстай яна ніколі ня бывае), дастае ў роце белых налётаў на паднябеньні і на дзёслах, часамі гэтыя налёты бываюць так грубыя, што ўвесь маленькі раток дзіцяці зарастае. Дык вось, калі хочаце, каб нашы парады аб кармленьні далі добры вынік, — перадусім выкіньце вон суслу, і ваша дзіцятка, напэўна, вам будзе ўдзячнае, бо ня будзе адчуваць тых боляў у жыватку, якія паходзяць ад суслы.

Перад самым кармленьнем і накарміўшы дзіця, трэба ўмыць грудзі, бо скура пад адзеньнем ніколі ня бывае чыстая, а дзе нечыстата, там хвароба. Мыць грудзі трэба перэгатаванай вадой, або яшчэ лепш такой мешанінаю: на шклянку перэгатаванай гарачай вады ўсыпаць лыжачку борнае кісьлі і астудзіць. Борнае кісьлі можна купіць у аптэцы за 20 грошаў. Такая мешаніна вельмі ачышчае скуру, а чыстата і добра для грудзей і для дзіцяці.

Карміць дзіця трэба раз з аднэй грудзіны, другі раз з другой. Карміць дзіця з абедзьвюх грудзей нядобра, таму што дзіця ня

чыста грудзі высысае і такім чынам зарываецца малако ў грудзёх і потым будзе дзіцяці замала.

Для матак, якія маюць мала малака ў грудзёх, таксама ня можна піць горкай солі, бо ад горкай солі малако вельмі зьменшаецца, а можа і зусім згінуць,—гэта для дзіцяці будзе вялікай стратай.

Наагул, калі дзіця здаровае, то трэба кожны раз яго карміць 15—20 мінут, гэта досыць, каб яно наелася дасыта, але і не аб'елася. Калі-ж дзіця слабое, або ў маткі грудзі вельмі цьвёрдыя, трэба карміць даўжэй.

Вучоныя і дактары сцьвердзілі, што найздаравей для дзіцяці, калі яно будзе есьці раз у 3 гадзіны — 7 разоў на пару (суткі), з перарывам уночы або ад 12-ай да 6, або ад 9-ай увечары да 3-яй рана, гэта значыць начны перарыў павінен трываць 6 гадзін. Патрэбен ён і для дзіцяці і для маткі: і адно і другое мусіць уначы адпачыць. Калі дзіця ня корміцца ўначы, то яно хутка прывыкае да гэтага перарыву і часамі ня будзячыся прасыпае ўвесь гэты час. Адразу пасьля нараджэньня дзіця, ведама, не разьбірае, калі дзень, калі ноч і яму ўсё роўна, калі есьці і калі спаць, і матка, якая ня хоча мець вельмі многа клопату, павінна адразу прывучыць дзіця да парадку. А дзіця, як да благіх рэчаў, напрыклад, суслы, так і да добрых, як правільнае кармленьне, прызвычаіваецца вельмі хутка. Праз пару тыдняў яно само будзе будзіцца і даваць матцы знаць, што ўжо пара есьці.

Калі дзіця мае ўжо 2 месяцы, то трэба яго карміць 6 разоў на пару (суткі), таксама раз у 3 гадзіны, або што $3^1/_2$ г. такім чынам, каб на начны перарыў выпала 8 або 10 гадзін. Ад 6-х месяцаў трэба карміць 5 разоў на пару, раз у $3^1/_2$ або чатыры гадзіны і так ужо да 9 месяцаў, калі дзіця трэба ад грудзей адлучыць.

Пры кармленьні ёсьць яшчэ адна важная рэч – пасьля таго, як дзіця пад'есьць, у ніякім выпадку ня можна яго спавіваць, бо як спаўеш, сьцісьнеш дзіцяці жываток—дык яно адалье ўсю ежу і ізноў будзе галоднае. Аб тым, як закручываць дзіця, каб яму было выгодна, будзем пісаць у наступных нумарох. Добра таксама пасьля кармленьня патрымаць дзіця крыху стаячком, каб ежа ўляглася і не адлівалася.

Усё, што вышэй напісана, адносіцца да дзяцей здаровых і нармальных. Калі дзеці родзяцца слабымі, або хварэюць паміма правільнага кармленьня, то тады трэб парадзіцца ў доктара, або напісаць у нашу часапісь, падаючы век дзіцяці і праявы хваробы, а мы, калі можна будзе штосьць парадзіць здалёк — то парадзім заўсёды з ахвотай.

Маці.

---

## Выхаваньне дзіцяці.

Неяк у сьвяточны дзень да Андруковых у хату сабралася жменька сваякоў, кумоў ды знаёмых. Гутарылі аб тым-сім, развažалі, але-ж найбольш часу пасьвячалі маленькаму аднагадоваму Пранучку, які круціўся паміж сабраўшыміся, то поўзаючы, то прабуючы хадзіць, трымаючыся за лавы ды калені гасьцей.

Што раз, то нехта з хатніх—маці бацька або бабулька, бралі Пранучка на рукі, ды, хочучы пахваліцца „разумным“ хлопчыкам, загадывалі яму рабіць усялякія „штукі“.

„Ну, Пранучок, дай дзядзьку хвігу“ — і Пранучок складае з маленячкіх пальчыкаў хвігу і падсоўвае яе дзядзьку. Усе сьмяюцца. Дзіця пераконваецца, што зрабіла нешта добрае.—„Пранучок, пакажы цётцы язык“.— Маленячкі язычок хуценька высоўваецца ў бок цёткі, спатканы вяселым сьмехам прысутных.

„Вось, жэўжык, кажа нехта, яшчэ хадзіць добра ня можа, а ўжо ўсялякія штукі патрапіць рабіць“.

— „Пранучок, кажа бацька, вазьмі палку, дай бабульцы“.—Дзіця дапаўзае да паказанай палкі, нязграбна падымаецца на ножкі, трымаючыся за ложак, падыходзіць да бабулькі, ды размахнуўшыся б'е яе дзе папала. — Цяпер сьмех у хаце яшчэ весялейшы. „Імка б'ецца, хваляць мужчыны, будзе з яго ваяка“.—„А мая-ж ты ягадка“, – захопліваецца бабулька, хапаючы хлопчыка на рукі.

Пранучок рад, горда пазірае на ўсіх, разумеючы, што яго ўсе хваляць і ўсе цешацца з яго „розуму“. Пачакаўшы, ужо ён сам ня прошаны, пачынае раздаваць хвігі, паказываць язык і біць палкай каго папала.

---

Праходзіць час. Пранучок расьце. Яму ўжо тры, чатыры, пяць гадоў. І тут наступае нешта для яго незразумелае: усе яго „штукі“, якія былі спатыканыя вяселым сьмехам, цяпер выклікаюць зусім іншыя зьявішчы. Пакажа цётцы язык, тая гневаецца ды называе брыдкім смаркачом, калі не гарэй; дасьць дзядзьку хвігу, той у адказ пачастуе яго пляскачом; а калі схапіўшы палку адлупцуе сваю маленькую сястрычку, або суседзкага хлопчыка, то ўжо тады гэтак яго выдзяруць за вушы, або паб'юць рукі, што праз цэлую гадзіну, зашыўшыся ў які цёмны куток, ня можа ўняць сьлёзак.

Працуе бедная дзіцячая галоўка і ніяк ня можа зразумець, чаму тое, што раней было добрым, сягоньня стала нечым благім.

Чаму за тое, за што ўчора хвалілі, сягоньня б'юць?

Ён-жа сам гэтага ня выдумаў, яго-ж навучылі і язык паказываць, і хвігі даваць, і біць палкай.

У яго маленькай душы паўстае бунт і ўпорства: бьюць?—добра, няхай бьюць, а я ім на злосьць...

І пачынаецца барацьба. Яго лаюць, б'юць, а ён свае „штукі“ паўтарае.

Надыходзіць пара вучыцца. Пранучок ідзе ў школу. І там ад першага амаль дня пачынаецца бяда. Пранучок кругом раздае хвігі, кулакі.

— Яго таксама б'юць; вучыцелька скардзіцца бацьком, тыя караюць. Хлопчык робіцца што-раз горшы, пануры, злосны. Але сваей віны ён ня бачыць. У яго душы, хоць можа і нясьведама, адчуваецца крыўда, вялікая крыўда і жаль да тых, хто першы, дзеля ўласнай неразумнай забавы паказаў яму дарогу да розных „штукаў“.

Л. Войцікава.

# Да нас пішуць.

Рэдакцыя атрымала пісьмы з вёскі з вельмі сумнымі весткамі аб тым, што нашы беларускія дзяўчаты бяруць удзел у п'янстве з мужчынамі і нават падбурваюць іх на гэта. Вось адно з гэтых пісьмаў тут зьмяшчаем.

**Дзяўчаты!** да вас маіх пару слоў: не на гульбішчы і п'янства падбурайце хлапцоў,— гэта брудзіць вашае імя. Шукайце лепшае сьвятлейшае дарогі. Вашы сёстры розных краёў даўно паказваюць яе, але вы ўпорліва ня хочаце гэтага бачыць. Заклік вашых сёстраў не знаходзіць рэха ў вашых скамянелых сэрцах. Прырода дала вам вялікую моц трымаць у паслухмянасьці сільную палавіну чэлавечага роду, але вы самыя зьнясільваеце сябе, умаляеце сваю вартасьць расцярушанасьцю, сваркаю, плёткамі і рознымі драбніцамі. Замест таго, каб выкарыстаць сваю сілу ў поўнай меры, вы самыя на сябе ў будучыні гадуеце біч у пастаці дзяцей (бо-ж кожная з вас будзе маткаю), каторыя растуць мала таго як дзічкі але з рознымі духовымі і маральнымі хваробамі ў дадатак. Адкуль бяруцца ліхія бацькі, мужыкі, сыны, унукі, браты? Жанчына, гэта ты выгадавала і гадуеш іх. Гэтае векавое памылкі свае ніяк ня хочам бачыць, а тым балей паправіць яе.

За грамадзкі заняпад, за агульную дэмаралізацыю, за ўсё ліхое, ад чаго мы цярпім, адказваеш ты, жанчына, бо на тваіх руках выхоўваюцца будучыя пакаленьні і што ты з малаком сваім дасі дзіцяці, тое яно потым аддае, павялічыўшы яго ў сто-тысячу разоў. Няўжо-ж мой заклік не закране ні воднае струны ў тваім сэрцы, жанчына? Няўжо ты ня бачыш і не захочаш бачыць свае адзіноты паміж мільёнамі сабе падобных? Памылкі нашых папярэдніц хай будуць для нас вечным дакорам, дзякуючы якому мы сьвядома паўтараць гэтыя памылкі ня хочам і ня будзем.

Мы амаль што зусім няпісьменны, ня разьвіты, дык возьмемся дружна і папоўнім гэты вялікі недахоп. Аб'яднаймася і супольнымі сіламі ідзем на лепшы — ясьнейшы шлях, памагаючы адна аднэй у змаганьні за лепшае жыцьцё, за сьвятлейшую будучыню.

**А цяпер маіх пару слоў да жанчын замужніх.**

Жанчына, каб ты толькі схацела зразумець, пазнаць і скарыстаць сваю сілу, якім волатам стала-б ты? А цяпер што ты ёсьць? За выключэньнем нямногіх шчасьлівых, ты прыгнечаная, запужаная поў - раба, поў - хатняя жывёла. Нават жаль свой баішся ты на сьвет вынесьці, а таіш яго ў глыбіні сваёй душы, паплакаўшы дзе ў кутку. Думкі твае блутаюцца, і розум твой прападае.

Ці ты думаеш, што мужык твой будзе з табою шчасьлівы, бачучы цябе заўсёды гэтакаю запужанаю, заплаканаю?

Не, стань-жа ты, як роўная з ім, гадуй яму дзяцей сьвядомых у жыцьці, а дзеля ўсяго гэтага сама разьвівайся. Кожная вольная хвіліна няхай не прападае, няхай ня йдзе на жыцьцёвы бруд, а скарыстай яе на сваё ўсьведамленьне, на ўзмацненьне сваіх духовых сілаў, на папаўненьне недахопаў тваййго выхаваньня.

Замест запужанага хваравітага бліску, няхай у тваіх вачох сьвеціць яснасьць, сіла, і вера ў лепшую будучыню. Няхай гэты твой ясны і сільны ўзрок будзіць у душы слабых, зьбітых з дарогі, жаданьне шуканьня згубленнага шляху і затрачанае або нязнанае сілы.

Больш за ўсіх жанчын адсталі мы, беларускія жанчыны. Адгукнецеся на мой заклік! Цяжкую жыцьцёвую дарогу прайшла я. Была несьвядомаю, патоптанаю ў сваіх правох, але хоць цяжкаю цаною аднак пазнала я ў сабе тую сілу, якой нават і не спадзявалася. У кожнай табе, беларуская жанчына, сілы гэтай шмат, захаці, умей знайсьці, скарыстаць яе і памажы другой тваёй сястры ў яе нядолі.

Шчыра працягваю сваю руку і клічу: да працы!

К.

З Наваградчыны.

# Ці варта умець шыць і вышываць.

У прошлым нумары мы якраз разглядалі гэтае пытаньне і прышлі да выніку, што ня толькі варта, але і неабходна.

У гэтым-жа нумары будзем ўжо гутарыць аб тым, як прыступіць да выкананьня пакуль што гутаркі. Перш чым узяцца за працу, хачу падзяліцца з вамі сваімі разважаньнямі пра матэрыял, з якога будзем шыць.

Дзіўная рэч, — тое, што моднае, нам падабаецца. А сапраўды паглядзім, ці так. Некалісь ужо насілі доўгія сукенкі і здавалася, што ніколі не адзенем кароткай, а як сталі насіць кароткія, дык што раз карацей і карацей. Але вось ізноў некаму недзе падабалася вярнуць такія сукенкі, як раней і нам яны ўжо падабаюцца, здаецца, што прыгажэйшыя ад кароткіх, якія часам і кален не закрываюць. Так ужо быў час, што на сваей работы палатно ці сукно і глядзець не хацелася, а вышыўка крыжыкамі ці плоскім швом, якая напамінала нацыянальныя вопраткі розных народаў, як беларускія, украінскія, баўгарскія і т. д., пайшла ў забыцьцё і толькі дзе-ні-дзе захавалася ў бабулькі ў куфэрку. Цяпер і гэта некаму недзе захацелася выцягнуць на сьвет Божы. І вось бачым на цяперашніх модных журналах шмат блюзак вышытых нават на рукавох, а выглядаюць як сарочкі з тканымі шлякамі нашае нацыянальнае беларускае вопраткі.

Зроблены гэныя блюзкі і сукенкі з палатна льнянага ці шоўкавага, вырабленага на манер нашага хатняга недабеленага палатна. Дык калі жыхары гарадоў у фабрыках вырабляюць матэрыі, каб былі падобныя да хатняга недабеленага палатна, дык чаму-ж мы маем купляць фабрычныя баваўняныя транты? бо-ж льняньня і шоўкавыя праўдзівыя дорага каштуюць. Дык ці ня лепш было-б зьвярнуць увагу толькі на тое, каб нашае палатно было прыгажэйшае, гэта значыць, танчэйшае і выткана раўней, чым купляць фабрычныя баваўняныя матэрыі. Цяпер-жа, калі на вёсцы такі трудны час, дык пастараемся абысьціся сваімі хатнімі вырабамі, ткучы свае гэткае прыгожае палатно, ручнікі, настольнікі, посьцілкі (капы), і каляровыя з горшага гатунку льну матэрыі на спадніцы, жакецікі і на вопраткі для хлапцоў і мужчын. Трэба толькі старацца, каб колеры былі прыгожыя і трывалыя. Вось гэтым мы заашчадзім грош на палепшаньне нашае гаспадаркі і на кніжкі ці газэту ў роднай мове. Мы часта прадаемо свае вырабы за бясценак у горадзе дзеля таго, каб жыхары гораду абівалі сабе мэблі, ужывалі як капы, сарвэты ці дываны нашыя посьцілкі, а самі купляем баваўняныя матэрыі з узорамі, зробленымі для фабрыкі нейкім чужынцам. Яны не такія як нашыя, а выглядае, што нашыя павінны быць даражэйшыя, калі нашыя тканіны з нашымі ўзорамі служаць для прыбраньня хаты жыхаром гарадоў. Вось разважце самі і пабачыце, што праўду кажу.

А цяпер да працы.



Паглядзім, што трэба мець, каб сшыць блюзку, якую тут бачыце на малюнку.

1) Два мэтры палатна.
2) Цэнтымэтр (мерка).
3) Выкрайка (форма).
4) Пяць штук шпілячак ці іголак.
5) Іголку.
6) Ніткі на шпульцы № 20 калі дзеля шыцьця рукамі і № 40, калі шыць на машыне.
7) Нажніцы.
8) Канвы 12 цэнтымэтраў.
9) Клубочак чырвоных нітак — „Ірыс“ № 8 фабрыкі D.M.C.
10) Узор.
11) Напарстак.




Пры шыцьці трэба мець мерку, якая называецца цэнтымэтр. На разе яе ў хаце можа ня быць, дык надта лёгка зрабіць яе самым. Узяць адрэзаць роўна берагі газэты, сшыць іх, каб была даўжэйшая палоска, зложыць удвая ўздоўж, каб быў мацнейшы і падзяліць рыскамі на сто ці болей роўных частак такой вялічыні, як на рысунку, а кожная такая частка і будзе 1 цэнтымэтр. Мэтр мае сто гэтакіх частак = 100 цэнтымэтраў.

У краме, дзе купляюцца ўсялякія ніткі, можна купіць і цэнтымэтр, які каштуе прыблізна 35—40 гр.




Цяпер трэба ўзяць выкрайку і разглядзець, ці яна будзе пасаваць да фігуры, на якую будзем шыць. Можна яе праверыць, зьняўшы мерку з фігуры цэнтымэтрам, а можна яшчэ і лягчэйшым спосабам, як мы тут падаем. Выкрайку трэба прымерыць, прыкладаючы да фігуры перадок і сьпінку. Калі акажацца, што выкрайка замалая, дык дадаць гэты недахоп частку сьпераду, а частку збоку, зьмераўшы яго (гэты недахоп) цэнтымэтрам. Калі гэта акажацца пры прымерцы сьпінкі, трэба дадаць частку ззаду, а частку збоку. Калі прымерыўшы рукаў таксама будзе недахоп, то дадаць яго з аднаго і другога бакоў. Калі-ж будзе закароткa, то дадаць унізе, незабываючы аб тым, каб усюды дадаць па 1 цэнтымэтру на швы.

Калі-б выкрайка аказалася задоўгая і зашырокая, дык яе залажыць, а ня зрэзваць, бо можа быць у сам-раз на нейкую іншую фігуру. Наагул няхай лепш будзе скроена шырэй, дык можна, прымерваючы забраць у шоў, а як будзе завузка, тагды ўжо трудней зарадзіць.

Каўнерык, манкецікі і наплечнікі трэба зьмерыць цэнтымэтрам, а выкройваючы не забыць напусьціць на шоў. На выкрайцы знайходзіцца малюнак, як разьмясьціць выкрайку на палатне.

Выкрайка ў натуральную вялічыню дадаецца кожнай платнай падпісчыцы. Як прышыць рукаў, азначана на выкрайцы. Рукаў трэба вышыць пакуль ён толькі выкраены, але ня сшыты. Таксама зрабіць з каўнерыкам і з манкетамі. Блюзачку сьпераду на грудзёх трэба вышыць, як будзе ўжо зусім гатова. Наша блюзачка на рысунку ўшыта ў паясок, але можна яе рабіць і без пояска. Прарэшка сьпераду каля шыі аблямоўваецца касым кавалачкам, шырыню ў 2 цм., а таксама, калі рабіць блюзку бяз пояса, дык унізе трэба аблямоўваць касым.

Сьпераду у канцох каўняра ў тым месцы, дзе ён ушыты ў блюзку, зрабіць па аднэй невялікай пятлі на канцы, каб было за што зачапіць завязачку.

Завязачку зрабіць з шэрага і чырвонага „ірысу“ № 8 так, як робяцца нашыя звычайныя паясы.

Завязачка павінна быць ня шырэй, як на палец.

Здаецца аб усім ўжо пагутарылі, а цяпер сьмела да працы.

Калі-б былі яшчэ ў каго якія сумлівы, дык пытайцеся.

Апрача усялякіх прыгожых блюзак, спадніц і сукенак, найпрыгажэйшай будзе наша чыста нацыянальная беларуская вопратка. Кожная з нас павінна пастарацца, каб хоць у сьвяточны дзень магла апрануцца ў свой нацыянальны касьцюм. Аб гэтым мы яшчэ будзем шмат гутарыць далей. Пакуль што пастараемся хоць вышываць на звычайных блюзках і сукенках нашыя родныя беларускія ўзоры.



**Вышыўка** на нашай блюзцы вельмі простая. Яна напамінае тканыя ўзоры на нашых так прыгожых нацыянальных касьцюмах. Узор-жа яе ўзяты з беларускага музэю у Вільні. Вышываецца яна па канве, але ня крыжыкам, а плоскім швом. Між кожнаю ніткаю канвы па аднаму сьцяжку. Кожная платная падпісчыца адтрымоўвае ўзор у натуральную вялічыню і з паказаньнем спосабу вышываньня. Ніткі абавязкава трэба браць фабрыкі D. M. C., бо іншых фабрык ніткі будуць ліняць. Да палатна хатняга — ірыс № 8, а да палатна шоўкавага mouline (мулінэ) тэй-жа фабрыкі.

**Цётка Тоня.**

# Гаспадарчыя парады.

## Пятрушка.

Зьвяртаю увагу гаспадынь на неабходнасьць сеяньня пятрушкі. Як ведама ўсім, пятрушка надта патрэбная рэч у гаспадарцы, бо-ж яна ў прыпадку хваробы служыць лякарствам як для чэлавека, так і для жывёлы. Пятрушка таксама неабходная рэч як прыправа для ежы, бо страва, звараная з пятрушкаю, шмат смачнейшая, як без яе.

А тымчасам, ня ведаю з якое прычыны, але на вёсцы ня сеюць пятрушкі, а як толькі, ня дай Божа, зойдзе яе патрэба, бягуць у горад або ў суседні двор, каб дастаць пару карэнчыкаў.

Пятрушка не патрабуе шмат апекі пры яе гадоўлі. Трэба ў гародзе выбраць кавалак добрай зямлі, угноенай з восені, добра перэкапаць глыбінёю на адзін штых, акуратна выбіраючы карэнчыкі з зямлі. Перакапаўшы добра, выграбці граблямі і зрабіць градку шырынёю на два аршыны. Разоры рабіць зусім плыткія, глыбінёю на чатыры пальцы — ня *больш*, а шырынёю на рыдлёўку. На градцы парабіць раўчучкі трэсачкаю не надта глыбокія, ў адлегласьці двух пядзяў раўчучок ад раўчучка і сеяць пятрушку прыблізна ў адлегласьці двух пальцаў між паасобнымі зернятамі, прыцярушыць зямлёю, каб зерняткі ня былі наверсе. Сеяць пятрушку і наагул кожную гародніну найлепш ў радочкі, бо лягчэй палоць. Добра нават матычкаю паміж радкамі паварушыць зямлю пару разоў на лета. Кожная гародніна гэта вельмі любіць. Сеючы пятрушку, трэба ўкінуць у кожны радочак насеньня раньняе рэдзечкі, або зярняткі аўсу, які ўзыдзе раней як пятрушка і такім чынам будзем бачыць радкі і зможам выпалаць зельле між радкамі, не закрануўшы пятрушкі. Пятрушка ўсходзіць каля шасьці тыдняў, а дзеля гэтага трэба сеяць яе, як можна раней. Насеньне пятрушкі вельмі таннае, бо купіўшы пачак за 20 гр. хопіць для двух гаспадынь на ўсю зіму.

Калі захочам мець на другі год сваё насеньне, то трэба дастаць карэнчык пятрушкі і пасадзіць яго вясною, як садзім высадкі морквы ці буракоў. Выбіраецца пятрушка з гароду ў восень разам з усею гароднінаю.

---

## Рабарбар (рэвень).

Калі хто жыве каля гораду, а нават і далей, дык можа мець даход, засадзіўшы кустоў 50 рабарбару. Гэта расьліна не вымагаючая вялікага дагляду, а карысьць дае добрую. У нас у Вільні раньняй вясной кілё цырбуноў каштуе 1 зл. 50 гр., а пасьля зьніжаецца да 50 гр.

Выглядае гэта расьліна як лапух, гэтакае вялікае лісьцё, але ўжываюцца толькі цырбуны ад лісьцяў. Ужываюць іх, зьняўшы верхнюю шкурку, парэзаўшы на кавалачкі і вараць. Рабарбар вельмі прыемны, напамінае кампот з яблыкаў. Вараць з яго кашку і робяць надта смачнае віно. Усе гэныя рэчы вельмі здаровыя: добра дзеюць на жывот.

Пасадзіць яго можна ля плоту, калі хто мае мала зямлі, толькі ясна, трэба глядзець, каб крапіва і рознае зельле не заглушыла. Трэба добра зямлю перэкапаць, выбраць карэнчыкі зельля і пырэю, палажыць шмат гною, пасыпаць трохі вапны і садзіць расьлінкі, якія праз год ужо будуць вялікімі карчамі і з іх можна ўжо вырэзваць цырбуны.

Перш-на-перш, як толькі зьлезе сьнег, трэба пасеяць рабарбар на флянсы, купіўшы на 20 гр. пачак насеньня. Сеецца ён рэдка, так як буракі, а калі мае ўжо некалькі лістоў, перасадзіць на сталое месца. Пасадзіўшы, паліць некалькі разоў. Можна разрэзваць старыя карчы на некалькі частак і такім чынам разводзіць, але вялікі корч каштуе 1 зл. 50 гр. а з насеньня за 20 гр. будзе каля 40 корчыкаў.

Рабарбару ёсьць некалькі сартоў. Вельмі добрыя: „Вікторыя", „Манорх" і з чырвонымі корчыкамі „Mitchels Royal".

Як выражуцца цырбуны, трэба паліць гнаёўкай.

Лістоў усіх адразу зрэзваць ня можна.

---

## Разводзьце чорную смуродзіну (парэчкі).

Добра цяпер пасадзіць кустоў хоць пару чорнай смуродзіны, а на другую вясну з гэтых кустоў можна разьвясьці шмат маладых кусьцікоў. Смуродзіна дае даход дзесяць гадоў. Найбольшы ўраджай дае на пятым годзе. Куст можа даць пяць кілё.

Купляць кусты смуродзіны трэба ў салідных садаводаў, якія-б далі добры шмат плодны сорт з вялікімі ягадамі, бо гэтакія толькі варта садзіць.

З купляю кустоў трэба сьпяшаць, бо як разаўюцца лісьцікі, дык будзе позна, гэтакі кусьцік можа засохнуць. У смуродзіны карэньні ня йдуць надта глыбока, дык калі і знойдзецца грунтавая вада на якіх два мэтры (тры аршыны) у глыбіню, што ўжо фруктовым дрэвам шкодна, смуродзіне-ж гэта не пашкодзіць. Чорная смуродзіна любіць нават цянёк і добра расьце. Садзіць кусьцікі трэба ня гусьцей, як у адлегласьці $1\frac{1}{2}$—2 мэтраў ($2\frac{1}{4}$—3 аршына). Месца, дзе маюць быць пасаджаны кусьцікі, перэкапаць глыбока, выбіраючы ўсе карэнчыкі пырэю, налажыць добра гною каровінага і падсыпаць крыху вапны. Зрабіць ямачку на $\frac{1}{4}$ метра (больш-менш $\frac{1}{3}$ аршына), частку зямлі ў сярэдзіне ямкі зграбсьці на копчык і пасадзіць

кусьцік так, каб карэньні былі наўкола копчыка, а сярэдзіна кусьціка наверсе копчыка на адзін палец вышэй паверхні зямлі. Астачаю зямлі прысыпаць добра карэньні, абціснуць і каля самага корчыка зрабіць ямачку, каб затрымоўвалася вада.

Перакопаная зямля абсядзе, і корчык будзе на роўні з паверхняю зямлі. Пасадзіўшы трэба паліць, выліваючы патроху вядро вады пад кожны куст, аблажыць наўкола гноем і ад часу-да-часу паліваць.

Пакуль на гэтым скончым. У свой час падамо што рабіць далей.

**Гаспадыня.**

## Пра суніцы.

(Працяг).

Хоць сьнег яшчэ ляжыць, але сонейка нейк ясьней сьвеціць, нават ужо і грэе трохі, а гэтым ужо напамінае аб хуткім прыблізэньні вясны. Як толькі зыдзе сьнег і пара будзе брацца за гарод, не забудзьце падумаць аб месцы пад суніцы. Трэба выбраць месца, дзе небудзь у куточку гароду, бо суніца сядзіць на адным месцы чатыры гады. Ня можна суніц садзіць пад вялікімі дрэвамі ў цяні, бо тады яны слаба родзяць, дый ягады ня смачныя—кіслыя. Суніцы любяць сонейка, а калі ім замнога яго, дык самыя яны хаваюць ягадкі пад свае ўласныя лісткі, якіх у іх заўсёды многа, часамі нават частку з іх прыходзіцца зрэзываць, каб лепш ягадкі дасьпявалі.

Калі мы ўжо выбралі месца пад суніцы, трэба яго добра перакапаць, выбіраючы ўсе карэнчыкі зельля і пырэю, якія, пераzімаваўшы ў зямлі, ізноў маглі-бы расьці, забіраючы з зямлі ўсе патрэбныя для суніц сокі. Перакапаць трэба пару разоў, каб не засталася ніводнага карэнчыка пырэю, бо гэта найгоршы вораг суніцы. Ён кожны год усё балей і балей аплятае карэнчыкі суніцы, заглушае сваёю травою, і суніцы перэстаюць добра радзіць. Суніцы любяць зямлю тучную, а дзеля таго трэба палажыць каровінага гною шмат, як пад капусту; перакапаць ізноў зямлю добра на глыбіню рыдлёўкі, закрываючы гной зямлёю, каб не ляжаў наверсе. Градак пад суніцы рабіць ня трэба, а між кожнымі трыма радкамі пратаптаць дарожку, якая патрэбна пры палацьці, угнаіваньні і зьбіраньні ягад, а замяняе сабою разору.

Да жніўня месяца на гэтак прыгатаваным мейсцы можна сеяць салату, рэпу, летнюю рэдзьку, садзіць цыбулю ці памідоры. Сеяць трэба ў радкі, на паўмэтра радок ад радка і старанна палоць.

У жніўні-ж, калі пара садзіць расаду суніц, паміж ужо засеянымі і засажанымі радкамі, паварушыўшы зямлю матычкаю, садзіць суніцы. Суніцам засеяная і засаджаная гародніна нічога не пашкодзіць, бо салата, рэпа, рэдыска і цыбуля зусім выбяруцца, а памідоры хоць і сядзяць яшчэ, але лісты ў іх паабрэзваны, каб лепш даходзіла сонца і яны хутчэй сьпелі, і суніц яны не зацяняюць. Як паступаць далей, буду пісаць у тых нумарох, якія будуць выходзіць на час патрэбнай працы каля суніц.

## Як выгадаваць расаду памідораў.

(працяг).

Калі расьлінкі памідораў выпусьцілі ўжо трэці лісток, трэба іх перэсадзіць у другую большую скрынку так, каб расьлінка ад расьлінкі сядзела ў адлегласьці 10 цэнтымэтраў. Паліваць кожны дзень. Высаджваць на градкі каля 20-га траўня, як пройдуць ўжо прымаразкі. Як высажваць на градкі падамо ў наступным нумары.

## Як што варыць.

У нас на вёсках яшчэ дагэтуль не ўжываюць гэтакіх прыправў, як пятрушка, морква, поры і салеры. Але вось цяпер пара і нам падумаць і вясною засеяць усе неабходнае, бо колькі-б мы мяса ці сала не палажылі у гаршчок, дык ежа ня будзе смачная, а з прыправамі хоць і менш мяса, але ежа смачнейшая і здаравейшая. У нас на вёсцы найбольш ужываюць сала, малака, сьмятаны, грыбоў і яек, а дадаўшы да гэтага прыправаў, можна смачна і пажыўна прыгатаўляць ежу. Толькі калі хто з Вас будзе гатаваць па майму рацэпту, дык прытрымоўвайцеся хоць спачатку маёй рады — кладзіце, лійце і сыпце столькі ўсяго, колькі вам раджу, бо як адступіце ад маёй рады ды выдзе ня смачна, дык будзеце ўспамінаць мяне ліхам, а я на старасьці лет гэтага не хацела-б. Пішэце, пытайце, а я падзялюся з вамі ўсім тым, што ведаю.

Боршч на сям'ю ў 6 чэлавек.

Трэба: мяса 1 кілё, пяць сярэдніх бурачкоў, маркоўка, 1 пятрушка, 1 цыбулька, 1 ліст бабковы, чатыры бобачкі перцу горкага, адна лыжка мукі, паўшклянкі сьмятаны, солі па смаку. Калі мала салодкія бурачкі, дык усыпаць лыжку цукру.

Мяса можа быць ялавічае, сьвіное сьвежае ці салёнае або вяндліна. Мяса добра вымыць, а калі вяндліна пры скурцы, дык і выскрабсьці яе старанна. Косьці паперэсякаць на малыя кускі, палажыць у гаршчок і наліць вады прыблізна па 3 шклянкі на чэлавека. Паўшклянкі выгатуецца, дык застанецца $2^1/_2$ шкл. на чэлавека. Гэта ў тым выпадку, калі заквашваецца воцтам ці цытрыновай кісьляй. Калі-ж заквашваць хлебным ці бурачным квасам, тагды замест часткі вады ў лік гэтых 3 шклянак уліць па смаку таго ці іншага квасу.

Усе гэтыя прыправы трэба парэзаць дробненька як буракі. Укінуць ліст і перац і паставіць на вольны агонь, няхай гатуецца памаленьку. Бурачкі адварыць асобна. Мож-

на гэта зрабіць за дзень раней. Ачысьціць іх са шкуркі, нарэзаць дробненька ў тонкія доўгія пасачкі і, калі мяса будзе ўжо зварана, укінуць буракі. Буракі кідаюцца на астатак калі навар з мяса будзе ўжо гатовы і заквашаны, бо толькі тагды боршч будзе мець прыгожы чырвоны колер. Лыжку мукі расьцерці са сьмятанаю, уліваючы пакрыху боршчу. Расьцерці добра, каб ня было клёцак і ўліць ў боршч. Памяшаць і пакаштаваць ці даволі солі, квасу, салодкасьці. Калі ўсяго па смаку даволі, знача боршч гатовы; калі чаго замала, дык дадаць. Такі самы боршч можна зварыць бяз мяса, замяняючы яго ¼ кілё сала, парэзанага на вялікія кускі і расшкваранага на патэльні.

Постны боршч.

Замест мяса або сала да тых самых прыправаў улажыць 10 штук сярэдніх сухіх грыбкоў. Сьмятану замяніць аліваю, падсмажанаю на патэльні з лыжкаю мукі.

Аліву з мукою добра расьцерці, каб ня было клёцак і гэтым заправіць боршч.

Бабулька.

# Рознае.

## Як перахаваць засоленае мяса і кумпякі.

Мяса і кумпякі мусяць быць добра прасолены, каб соль прайшла наскрозь. Калі соль ня пройдзе аж да косьці, дык мяса пачынае псавацца і будзе мець пах сапсутага мяса. Гэты пах зараз-жа пачуюць чорныя, вялікія, бліскучыя мухі, знойдуць (найчасьцей пры косьці) шчалінку і паложаць там яечкі, якія трудна заўважыць, бо яны вельмі маленькія. Праз нейкі час з яечак выходзяць рабачкі, якія разьядаючы мяса, ідуць углыб, шукаючы менш прасоленага месца. Калі-ж кумпяк вялікі і мала прасолены, дык такое мала прасоленае месца і будзе каля самае косьці. Рабакі тады ідуць каля косьці, разьядаючы мяса, якое робіцца мокрым і сьмярдзючым. Дзеля таго, каб забясьпечыць мяса ад рабакоў трэба, каб мяса было добра прасоленае з рознымі прыправамі, добра прасушана на ветры і каб ня мялі да яго доступу мухі. Забясьпечыць мяса ад мух можна двума спосабамі. Спосаб першы: трэба пашыць са старага чыстага палатна мяшечкі, на кожны кавалак асобна, улажыць мяса, або кумпяк, шчыльна завязаць і павесіць на гары, куды мае доступ вецер.

**Другі спосаб**: трэба засыпаць у бочцы сухім жытам. Робіцца гэта так: жыта добра прасеяць, каб ня было пылу і высушыць. Узяць сухую чыстую бочку, або скрыню, толькі, каб ня было ніякага запаху, насыпаць на дно жыта таўшчынёю на 2—3 пальцы; палажыць рад прасушанага мяса, ізноў засыпаць жытам і так перасыпаць, пакуль усё ўложыцца. Наверсе трэба насыпаць жыта, каб мяса было зусім пакрытае. Ад часу-да-часу трэба перэглядаць, а жыта адсырэўшае перасушыць і зноў засыпаць. Трэба гэта рабіць раньняю вясною, пакуль яшчэ ня лётаюць мухі, бо як мухі на мясе накладуць яечак, дык і засыпаўшы жытам вывядуцца рабакі ў мясе.

## Як трэба вешаць бялізну?

Бялізну выпаласканую і пасіненую трэба добра выкруціць, каб лепш сохла (але трэба ўважаць, каб не перакруціць, бо перакручаная бялізна хутка разлазіцца).

Пасьля гэтага трэба добра яе растрэсьці і вешаць на шнуры. Бялізну вешаюць заўсёды перавернутую на левы бок, каб забясьпечыць яе ад забруджаньня. Шнур трэба выцерці чыстай мокрай анучкай, каб на імня было пылу.

Калі бялізну вешаем на гары, дык бліжэй да ваконца разьвешываем посьцілкі абрусы, капы, каб хутчэй высахлі. Вешаючы, трэба трошкі прыморшчыць, каб не ўтварыўся знак ад шнура. Трэба ўважаць таксама каб вышэй пералічаныя рэчы былі павешаны роўна, бо коса павешаныя, калі высахнуць, будуць касымі, а тады і качаньне не паможа.

Калі-ж будзем выцягіваць посьцілкі ці абрусы ў чатыры рукі, дык гэтым самым будзем прычыняцца да іх хуткага зьнішчэньня.

Кашулі і спадніцы вешаем падаламі, г. зн. шырэйшаю часьцю.

Бялізну зьнімаем трохі недасушанай, каб яе ня трэба было пасьля скрапліваць вадой. Рэчы перасушаныя трэба скрапіць рукой або крапідлам; некаторыя кропяць вуснамі, але гэта не гігіенічна.

Складаючы бялізну, гузікі хаваем у сярэдзіну, каб яны не ламаліся пры качаньні і трэба ўважаць, каб пры складаньні і выцягіваньні не цягнуць моцна, бо бялізна можа (асабліва старая) палопаць і будзе рвацца

Добра скачаная бялізна выглядае прыгожа і прыемна, а дзеля гэтага трэба яе качаць не сьпяшаючыся — раз укладываючы ўздоўж, раз ўпаперак. Добра скачаную бялізну дужа лёгка прасаваць.

# ХРОНІКА.

— **Выстаўка ў Вільні.** 28 і 29 сакавіка г.г. ў Вільні ў памешканьні Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча (Вострабрамская № 9) адбылася выстаўка абразоў беларускіх мастакоў Я. Драздовіча, М. Сергіевіча і фотографіяў Грыневіча.

Выстаўку зладзіла Краязнаўча-Турыстычная Сэкцыя Беларускага Навуковага Таварыства.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае будаўляны аддзел этнаграфічна - краязнаўчага зьместу, які зьяўляецца выключна працаю мастака Я. Драздовіча.

— **Выстаўка ў Рызе.** У Рызе, сталіцы Латвіі, зладжана Славянская Выстаўка, якая пачалася 7 красавіка, а канчаецца 19 красавіка г. г. Характар выстаўкі чыста народны. Зьмешчана народнае творства з будаўніцтва, ручных прац і мастацтва.

Выстаўка мае аддзелы: беларускі, расейскі, украінскі і баўгарскі.

У беларускі аддзел наш Музэй ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні паслаў свае экспонаты, як пасьцілкі, ручнікі, паясы і іншыя рэчы.

— **Новая кніжка.** Вышла з друку дзіцячая кніжка з вельмі цікавым зьместам і малюнкамі ў тэксьце пад назовам „Мышанё Пік".

Каштуе гэтая кніжка 60 гр. без перасылкі. На перасылку аднае кніжкі трэба прысдаць паштовую марку за 10 гр. Выпісаць можна з кнігарні Белар. Выдавецкага Таварыства — Вільня Вострабрамская вул. № 1.

— **„Заранка" № 2.** Вышаў з друку другі нумар дзіцячае часапісі „Заранка".

Маці, Бацька! Вашы дзеткі беларусы, як і вы іхныя бацькі, а ці ўмеюць яны чытаць і пісаць у сваёй роднай беларускай мове? Выконвайце-ж свой бацькаўскі абавязак, дагледзьце, каб вашы дзеці ўмелі чытаць і пісаць па-беларуску. Выпісвайце сваім дзеткам іх „Заранку", купіце ім беларускі лемантар і беларускую кніжачку.

— **Агульны сход Бел. Дабрадзейкага Т-ва** адбудзецца 3 траўня 1931 г. у 6 гадз. вечара ў памяшчэньні Т-ва пры Вострабрамскай вул № 9. Парадак дня наступны: 1. Справаздача Ураду і Рэвіз. Камісіі. 2. Зацьвярджаньне бюджэту на 1931 году. 3. Выбары Ураду і Рэвіз. Камісіі. 4. Выбары прадстаўнікоў у Цэнтрасаюз. 5. Бягучыя справы. 19. 4. 31 г. Прэзыдыюм.

# Пытаньні і адказы.

1. **Пытаньне.** Чаму курыцы часам сьпяваюць, як певень і ці праўда, што гэта прадсказвае нейкую бяду ў гаспадарцы і таму такіх курэй трэба рэзаць?

**Адказ.** Сярод рожных жывёлаў здараюцца ўсялякія ненармальнасьці, а асабліва часта даецца гэта назіраць сярод курэй. Напрыклад, часта пеўні маюць хвасты і грэбяні такія, як у курыцы, ня маюць шпораў на нагах і г. д. Бывае і наадварот, што курыцы маюць адзнакі пеўняў і вось аднэю з такіх адзнакаў зьяўляецца яе пяяньне, якое паўтараецца надта рэдка. Курыца сьпявае не заўсёды. Надта добра робяць, што гэтакіх курыц рэжуць, бо нясуцца яны звычайна блага і яйкі іх бываюць не заплодненыя. Вось гэта і зьяўляецца няшчасьцем у гаспадарцы, што курыца марнуе корм, а карысьці з яе мала. Больш-жа няшчасьця яна ніякага не прынясе, дык і ня трэба з беднае курачкі рабіць варажбіткі няшчасьця.

2. **Пытаньне.** Чаму малако ад каровы, якая навыгляд зусім здаровая, робіцца часам цягучае і як гэтаму зарадзіць?

**Адказ.** Прычынаў на гэтакія здарэньні можа быць шмат. Аднэю з такіх прычынаў можа быць тое, што ў начыньне ад малака, у цадзілцы, а нават і ў хляве знойдуцца заразкі (бактэрыі— грыбкі), якія і зьяўляюцца прычынаю цягучасьці малака. Ня гледзячы на тое, што на выгляд і начыньне і цадзілка выдаюцца чыстымі, трэба аднак начыньне некалькі разоў выпарыць варам з содаю, а цадзілку выварыць, усыпаўшы таксама ў вар соды. Сьцены ў хляве выбяліць вапнаю, дадаўшы креоліны (купіць у аптэчным складзе за 40 гр.); гной з хлява вывязьці і зямлю пад кароваю таксама зьліць вапнаю з креолінаю.

Другою прычынаю можа быць гнілы і нячысты корм ці брудная вада.

Трэба зьвярнуць увагу на чыстату корму і вады, якія даюцца карове.

Трэцяю прычынаю можа быць хвароба каровы.

**Лячэньне.** У працягу цэлага тыдня трэба даваць **два разы ў дзень** па дзьве лыжкі Карльсбадцкае солі (купіць у аптэцы—каштуе ня дорага), разьмяшаўшы ў вадзе, або ў пойле.

Замест Карльсбадзкае солі можна даваць таксама ў працягу тыдня **раз у дзень** каноплянага лісьця 15 грамаў на раз (купіць у аптэцы). Лісьцё запарыць, працадзіць, зьмяшаць з летняю вадою і даць выпіць.

Зазначаем, што два гэтыя лякарствы аднachасна даваць ня можна: трэба лячыць або адным або другім. Калі-ж не паможа, дык трэба тагды зьвярнуцца да вэтырынара.

3. **Пытаньне.** Як саліць і перахоўваць мяса, каб было смачнае, здаровае і каб не заводзіліся ў ім рабакі?

**Адказ.** Добра пасоленае, а яшчэ і абвэнджанае ялаўцовым дымам мяса ніколі не папсуецца і да апошняга кусочка захавае добры смак і прыгожы чырвоны колер.

Разабраўшы парсюка, трэба адразу абмяркаваць, што будзе вэндзіцца, а што пойдзе на каўбасы. Найчасьцей астаўляюць цалком ды вэндзяць шынкі (кумпякі) і лапаткі. Вось выняўшы іх з парсюка нацерці з усіх бакоў, пакуль яшчэ цёплыя **с а л е т р а ю** (купіць у аптэцы, сказаўшы што да мяса), бяручы па поў гарбатняй лыжачкі на адну штуку. Далей узяць $^1/_2$ (поў) хунта перцу гаркога, $^1/_4$ (чверць) хунта перцу ангелійскага, са дзьве жмені каляндры да бабковага лісту, падсушыць гэта ўсё ў печы, ператаўчы (на вель-

мі дробна) і зьмяшаць з 20 фунт. солі. Класьці мяса ў глыбокае карыта (насыпаць солі з усей мешанінай на дно) і перасыпаць шмат соляй.

Мяса пусьціць з сябе шмат соку, у якім яно і павінно ляжаць ня менш, як тры тыдні. Калі б сок мяса не пакрываў, то трэба яго ад час да-часу перавярнуць і сокам заліваць. Сланіну можна саліць разам і тады класьці яе на спод, пад мяса, або асобна ў бочцы, перасыпаючы тэй самай соляй з пэрцам. Пасьля 3-х тыдняў мяса выняць абсушыць і вэндзіць. Лік солі і пэрцу аблічаны на 10-ці пудовага парсюка.

Спосабаў саленьня мяса ёсьць шмат. Дзеля браку места ў часапісі падаем толькі адзін. У наступных нумарэх падамо больш.

## Наша пошта.

**Гр-цы Антановічанцы Юлі**. Пісьмо і падпіску атрымалі. Пісьмо будзе зьмешчана ў наступным нумары „Ж. С." Пішэце больш.

**Гр-цы Н. Паўльскай**. Падпіску атрымалі. Часапісь будзе высылацца.

**Гр-цы Н з Наваградчыны.** Пісьмо Ваша зьмяшчаем. Пішэце балей.

**Гр-цы Мані Арабей**. Пісьмо атрымалі. Пробны нумар высланы.

**Г-ну Брылевічу Ігнату**. Пісьмо атрымалі. Дзякуем за шчырыя і добрыя пажаданьні. Часапісь будзем высылаць.

**Гр-ну Бандаровічу Пятру.** Падпіску атрымалі. Часапісь будзе высылацца.

**Гр-цы Бакачысе Сьцепанідзе**. Грошы атрымалі. За Вашу працу згары дзякуем.

**Гр-цы Сьлезьнін Макрыне.** Грошы атрымалі. Адзін злот перадалы ў рэдакцыю „Заранкі". „Заранка" выслана. Выкрайка таксама высылаец ца пры № 2 „Ж. С.".

**Гр-ну Шчаснаму Антону.** Падпіску атрымалі. Частку грошаў перадалі ў рэдакцыю „Заранкі". На вашы пытаньні знойдзеце адказ у рубрыцы „Пытаньні і адказы" і ў аддзеле „Рознае".

**Гр-ну Рудко Грыгору**. Пісьмо атрымалі. Часапісь будзе высылацца.

**Гр-ну Карпенюку Астапу**. Падпіска атрымана. Часапісь будзе высылацца.

**„Powiatowe Zrzeszenie Zw. Ob. Pracy Kobiet w Nowogródku.** Грошы атрымалі. Першы нумар у трох экзэмплярах высланы. Наступныя нумары будуць высылацца.

**Гр-цы Н. Арсеньневай.** Пісьмо і грошы атрымалі. Шчыра дзякуем за згоду супрацоўніцтва. Зельмі шкода што ў гэтым нумары Ваш твор зьмясьціць ня можам, бо ўжо позна—нумар у гэтых днях выходзіць з друку. За абяцаны запас згары дзякуем. Статут Аб'яднаньня Бел. Жанчын будзе высланы. Плян працы на бліжэйшую будучыню знойдзеце ў першым нумары „Ж. С." пад загалоўкам „Урачыстае паседжаньне". Калі-б гэты наш плян быў зьменены ці пашыраны, дык зараз-жа гэтым з Вамі падзелімся. З свайго боку, просім Вас, калі-б Вы мелі якіякол чы ўвагі ў справе нашае праграмы, азначанае ў № 1 „Ж. С.", дык будзьце ласкавы падзяліцеся сваімі думкамі.

**Гр-цы Настасьі Генеральчук** Падпіска атрымана. Часапісь будзе высылацца. Календары высланы. Дзеля таго, што перасылка аднаго календара каштуе столькі-ж, сколькі і трох календароў, цана-ж на календар зьменшана і ён каштуе цяпер 70 гр., пасылаем Вам тры календары. Мо Вам удасца прадаць, бо цана вельмі малая зьмяшчае-ж ён у сабе шмат практычных парадаў. Калі прадасьцё, дык грошы просім прысласць

**Гр-цы Канстанцыі Скірмунтт. Пінск.** Пісьмо Ваша атрымалі. Вам не падабаецца, што мы „Жаноцкую Справу" друкуем гражданкаю і бычым гэтым „пучым сябе з Азіяй — Бальшавіяй". Хочаце пераканаць нас, што на ўсходзе чакае нас загладa, а ў Заходняй Эўропе — зьдзейсьненьне нашых народных ідэалаў. На „Усход" мы не глядзімо, але й на „Захадзе" добра ня бачым і накладаем надзею толькі і выключна на свае собственыя сілы. Чужынцы ані з Усходу, ані з Заходу нам не памогуць! Не разумеем толькі, чаму так Вам далася ў знакі „гражданка"?

Гражданка — гэта-ж нашая спрадвечная азбука — ёю пісаліся калісь у век нашага росквіту законы і дзяржаўныя акты—гражданкаю-ж пісаны і нашыя духоўныя кнігі і малітвы. Лацініца прыйшла да нас шмат пазьней і нічога добрага як дагэтуль яна нам не дала.

А ці вялікі пасьпех меў Ваш, паважаная Грамадзянка, так зв. „паляшуцкі лемантар", пісаны лацініцай? Ці шмат заложана беларускіх школаў хоць лацініцай? Не, мы бачым, што лацініца прапануецца не дзеля адарваньня нас ад Усходу, але хутчэй дзеля асыміляваньня толькі нашага народу і дзеля гэтага яна дасюль не знаходзіць сярод беларусаў прыхільнікаў. Хіба-ж Вам ведама, што нат клерыкальная „Беларуская Крыніца" выдаецца адзін раз лацініцаю, а адзін раз гражданкаю. Наагул, пакуль мы не пераканаемся, што лацініца нам падсоўваецца шчыра без укрытых мэтаў, датуль мы яе ня прыймем.

Дзеля браку мейсца праціяг пошты будзе ў наступным нумары.

У рэдакцыю **„Жаноцкай Справы"** шмат прысылаюць просьбаў даць практычныя парады самага разнаякага характару.

Рэдакцыя праз часапісь „Жаноцкае Справы" будзе ахвотна ў меру магчымасьці даваць адказы і парады на ўсялякага роду запытаньні. Апрача гэтага, рэдакцыя вельмі радзіць сваім паважаным чытачкам і чытачом выпісаць **„Беларускі адрыўны календар на 1931 г.** Белар. Выдавецкага Т-ва (Вільня, Вострабрамская вул. № 1). які зьмяшчае ў сабе шмат вельмі практычных і цікавых парадаў. Каштуе ўсяго 70 грошаў бяз перасылкі.

Цана ў краі: за год 6 зл. 50 гр., за паўгода 3 зл. 25 гр., за квартал 1 зл. 65 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 8-3.

Рэдактарка: Н. Шнаркевічава. Выдавецтва: Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын імя Ал. Пашкевічанкі (Цёткі).

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22